# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№9 (220)

верасень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" – 30 гадоў!

30 гадоў таму – 10 верасня 1990-га года – у Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Старонка 2

### Вольга Севярынец: Павел рыхтуецца да горшага...

Жонка палітвязня, сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Паўла Севярынца распавяла апошнія навіны пра мужа, якога не так даўно наведала адвакат.

Старонка 2

### "У "карнікаў" ёсць такая штука як расчалавечванне"

Беларус з Санкт-Пецярбурга Аляксей Залатарскі правёў свой 26-ы дзень нараджэння ў ізалятары на Акрэсціна.

Старонка 8

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



# Радзім Гарэцкі: Я ДЗЯКУЮ БОГУ, ШТО ЁН ДАЎ МНЕ МАГЧЫМАСЦЬ УБАЧЫЦЬ, ЯК АБУДЗІЎСЯ МОЙ НАРОД

Ідучы на сустрэчу з доктарам геолага-мінералагічных навук, акадэмікам, я згадваў словы яго дзядзькі Максіма Гарэцкага: "Скарэй набрацца сілухны і пачаць варушыць камені". Пляменнік даўно сілы набраўся і камянёў за сваё жыццё зварушыў безліч. І ў пераносным, і ў літаральным сэнсе – сталічны Музей валуноў створаны пры яго ўдзеле. Славуты навуковец, які ведае зямныя нетры Беларусі як свае пяць пальцаў, не застаецца безуважным і да таго, што адбываецца на паверхні. Сваімі думкамі з чытачамі падзяліўся прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з 1993 па 2001 гг. Радзім Гарэцкі.

**– Радзім Гаўрылавіч, ужо другі месяц у Беларусі праходзяць масавыя пратэсныя шэсці, штораз затрымліваюцца сотні людзей, амаль штодня праходзяць суды над імі. Як вы ўспрымаеце ўсе гэтыя падзеі?**

– З аднаго боку, мне вельмі балюча на ўсё гэта глядзець. Па мірным Мінску ездзяць бронетранспарцёры, аўтазакі, Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны аплецены калючым дротам, як у вайну! Улада неяк неадэкватна ўспрымае сітуацыю. Па вуліцах жа мірны народ ідзе. Людзі так і кажуць: мы выйшлі на мірнае шэсце! За што іх дубасіць? Навошта Лукашэнка аддаў такі загад сваім падначаленым? Колькі ўжо збітых, колькі пакалечаных і параненых, ёсць ужо і забітыя. Жудасныя рэчы… З другога боку, я проста шчаслівы, што дажыў да гэтага часу, калі нарэшце прачнуўся ўвесь беларускі народ. І адчуў сваю моц, зразумеў, што хоча жыць у незалежнай і дэмакратычнай беларускай дзяржаве. Калі я бачу мора бел-чырвона-белых сцягоў, мая душа радуецца.

**– У геалогіі ёсць гэткая з'ява – тэктанічны разлом, калі зямная кара разыходзіцца, з-за чаго планету час ад часу скаланаюць землятрусы. Сённяшнія падзеі ў Беларусі можна параўнаць з такім разломам?**

– Гэта, безумоўна, разлом. І тут я звярнуў бы ўвагу на такі момант. Раней мы назіралі разлом паміж Лукашэнкам і адносна нешматлікай апазіцыяй (партыямі і рознымі рухамі). А цяпер, гэта вельмі важна, велізны разлом прайшоў паміж Лукашэнкам і ўсім беларускім народам.

**– Калі тэктанічныя пліты разыходзяцца, яны ўжо не зрастаюцца?**

– Часам зрастаюцца, але ўжо на другім узроўні. І ўзнікаюць абсалютна новыя канфігурацыі на паверхні зямлі.

**– Логіку ўлады часам цяжка зразумець. То яна цісне на спартсменаў, то крыўдзіць вернікаў, не дапусціўшы ў краіну мітрапаліта Кандрусевіча, то студэнтаў зневажае – уводзіць ва ўніверсітэты АМАП. Чым вы растлумачыце такія дзеянні?**

Працяг на старонцы 3.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ЗГУРТАВАННЮ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА" – 30 ГАДОЎ!

*30 гадоў таму – 10 верасня 1990-га года – у Мінску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".*




Сведкі гэтай падзеі памятаюць, што паветра тых вераснёўскіх дзён было густа насычана салодкімі прадчуваннямі, верай у хуткія перамены ў жыцці ўсіх беларусаў на свеце. Пазней гісторыкі назавуць гэты час Нацыянальным Адраджэннем. А ўсяго праз год тутэйшыя беларусы прачнуцца ў новай, несавецкай, сваёй краіне.

Той важны для "Бацькаўшчыны" дзень нам падаецца сёння вельмі далёкім, бо зараз, праз 30 год, мы зноўку марым пра перамены і спадзяемся на лепшае. Але галоўнае, што ўвесь гэты час "Бацькаўшчына" працавала і працуе, каб паяднаць беларусаў усяго свету ў адзіную братэрскую супольнасць, дапамагчы захаваць і наладзіць кантакты паміж беларусамі ўсяго свету, паглыбіць нацыянальную ідэнтычнасць і спрыяць развіццю культуры як у замежных беларускіх асяродках, гэтак і ў самой Беларусі.

Мы хочам падзякаваць усім сябрам і паплечнікам, якія працавалі і працуюць разам з намі, якія былі побач і падтрымлівалі нас у няпростыя для арганізацыі перыяды, дзялілі з намі радасць ад поспехаў, рабілі ўсё магчымае, каб мы мелі дасягненні, якімі можам ганарыцца.

Мы хочам верыць, што і сусветная салідарнасць беларусаў, якой сёння захапляюцца ва ўсіх краінах, і насычанасць сёлетняга вераснёўскага паветра ў Беларусі сталіся магчымымі дзякуючы ў тым ліку і нашаму ўнёску.

Хочам пажадаць нашым сябрам і ўсім беларусам веры ў найлепшае, нязломнай моцы і нязгаснай энергіі.

Жыве Беларусь!

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

гутарка

# Вольга Севярынец: ПАВЕЛ РЫХТУЕЦЦА ДА ГОРШАГА...

*Жонка палітвязня, сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Паўла Севярынца распавяла апошнія навіны пра мужа, якога не так даўно наведала адвакат.*



– Ясная справа, што ў Паўла асаблівых навін няма, ён толькі пытаецца, што ў нас адбываецца, – гаворыць Вольга Севярынец. – Адвакат наведвае яго раз на два-тры тыдні, каб распавесці яму пра апошнія падзеі на волі.

Тыдзень таму мне званіла новая следчая, шукала нумар Пашавай адвакаткі. Спачатку ягоную крымінальную справу вёў мужчына, а цяпер патэлефанавала жанчына, прадставілася следчай, прозвішча назвала, але я не запомніла. Толькі запыталася: відаць, рыхтуецца новы допыт Паўла? Яна адказала, што так. Але адвакату ніхто пакуль не паведамляў пра новыя следчыя дзеянні.

**– Лісты ад Паўла даходзяць?**

– Так, просіць мяне "Беларусалімам" займацца, кнігі прадаваць. У лістах больш просьбаў ад яго, пра сябе і пра ўмовы ўтрымання ён ніводнага сказа не піша! Ведаю, што ў камеры ён да нядаўняга часу быў з мужчынам, які чакае дэпартацыі. У адным з лістоў пісаў, што яны нават лячыліся разам, бо Паша моцна застудзіў суставы, калі яго пакінулі без абутку, які недзе згубіўся. І, як я зразумела, лекаванне не асабліва дапамагае, бо ён ужо, здаецца, больш за месяц лечыцца, а боль у каленях не знікае.

Прасіў кавы яму перадаць, але, як я зразумела, не для сябе, бо ён такі тып, што кавы не п'е. І канвертаў для замежжа яшчэ прасіў, бо з-за мяжы яму нават пішуць. Увогуле, яму перадалі каля 40 лістоў напрыканцы верасня, ён на кожны адказвае. І я ведаю, што прынамсі да нашых сяброў гэтыя лісты даходзяць.

Яшчэ піша, што наша расстанне з ім будзе не надта доўгім, але і не кароткім. Ён мяркуе, што пасядзець яму прыйдзецца. Піша, што рыхтуецца да горшага, каб потым жыццё было прыемным сюрпрызам. Ну а як яно будзе – ніхто не ведае.

**– А пад заклад не спрабавалі яго вызваліць?**

– Трэба будзе паразмаўляць з адвакатам. Але сумняваюся, што гэта спрацуе.

Дарэчы, Павел просіць, каб да яго пусцілі святара. Але пакуль адмаўляюць – маўляў, каранавірус. Але ж адвакат да яго ходзіць, чаму святар тады не можа наведваць зняволеных, зрабіўшы адпаведныя захады бяспекі? Магчыма, сітуацыя зменіцца…

Адвакат гаворыць, што Павел выглядае бадзёра, жартуе, а яшчэ як можа беларусізуе тых, хто працуе ў следчым ізалятары. Калі раней ён быў лысы, бо пагаліўся, то цяпер і валасы ўжо адраслі…

**– Ведаю, што вы з сынам вярнуліся ў Мінск літаральна за дзень да таго, як даведаліся, што вашы бацькі захварэлі на каранавірус…**

– Так, гэта праўда. Калі хто хоча ехаць на Нарач у санаторый, то не рэкамендую.

**– Вашы бацькі не ў шпіталі?**

– Пакуль не, і іх нават на КТ да нядаўняга часу не маглі адправіць. Выслалі ім пульсаксіметр, каб за кіслародам сачылі. Але я ведаю, што на Нарачы былі выпадкі, калі людзі быццам бы папраўляліся і адчувалі сябе адносна нармальна, і тэмпературы ў іх не было, але КТ паказвала пнеўманію. Таму трэба берагчыся!

**Марына Коктыш, "Народная Воля"**

гутарка

# Радзім Гарэцкі: Я дзякую Богу, што ён даў мне магчымасць убачыць, як абудзіўся мой народ

Працяг са старонкі 1.

– Я некалькі разоў, у другой палове 1990-х, калі быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук, асабіста сустракаўся з Лукашэнкам. Ужо тады ў ім праяўляліся дыктатарскія замашкі. А для дыктатараў улада – гэта наркотык, нават супернаркотык. І вось, на маю думку, Лукашэнка ўвесь час знаходзіцца пад уздзеяннем гэтага супернаркотыку. Без улады ён проста жыць не можа, у яго ломка пачнецца, улада для яго – самае галоўнае. Каб яе не згубіць, ён гатовы на ўсё – біць, катаваць, нават страляць. У змаганні за ўладу ён пойдзе да канца.

**– Нядаўна Лукашэнка прыязджаў у Акадэмію навук, сустракаўся з акадэмікамі. Чаму вы не пайшлі на сустрэчу? Сказалі б усё гэта яму ў вочы…**

– Мяне на тую сустрэчу не запрашалі. У акадэміі я даўно вядомы як ненадзейны з гледзішча адміністрацыі чалавек. На жаль, кіраўнік акадэміі Уладзімір Гусакоў – перад уладай лапкі ўгору. На сустрэчу былі запрошаны толькі тыя, хто мог задаць зручнае пытанне, сказаць ухвальнае слова. Нязгодных там бачыць не хацелі. Скажам, яшчэ аднаго акадэміка Аляксандра Вайтовіча таксама не паклікалі. А ён жа ў свой час узначальваў акадэмію. З нашага Інстытута прыродакарыстання на сустрэчы прысутнічалі толькі двое, нават дырэктар не быў.

**– Кадравыя чысткі дайшлі і да акадэміі – днямі быў звольнены дырэктар Інстытута сацыялогіі Генадзь Коршунаў.**

– Для мяне гэта не дзіўна – ён, наколькі мне вядома, падпісаў зварот акадэмічнай супольнасці супраць гвалтоўных дзеянняў улады. А яшчэ перад выбарамі, помніцца, агучыў рэйтынг падтрымкі кіраўніка краіны – 24 працэнты, а Цэнтрвыбаркама – 11 працэнтаў. Што ж, Лукашэнка, як вядома, спецыяліст ва ўсім – і гісторык, і эканаміст, і ваенны… Цяпер, відаць, і сацыялогію асвоіць.

**– Мяне ўразіў адказ кіраўніцтва НАН на зварот расійскіх навукоўцаў да беларускай улады з патрабаваннем спыніць рэпрэсіі ў Беларусі. Вось некалькі вытрымак з таго адказу: “наш народ полностью поддерживает действующего главу государства”, “выходит на улицы кучка разрушителей, управляемых из-за рубежа”, “толпа... чинит беззаконие, провоцирует”. Пры гэтым сцвярджаецца: “наука – вне политики”. Выразы – проста як з прапагандысцкай перадачы па БТ.**

– Вось такой, на вялікі жаль, стала наша Акадэмія навук... Многіх расійскіх навукоўцаў, што праявілі салідарнасць з беларускім народам, я ведаю асабіста. Мы працуем над агульнымі тэмамі, робім сумесныя публікацыі. Я ж з’яўляюся таксама і акадэмікам Расійскай акадэміі навук. Там таксама не ўсё ідзе ладам. Але ў нас... Бог ты мой, мы ж збіраемся спецыяльна, каб прывесці статут акадэміі ў адпаведнасць з заўвагамі прэзідэнта!..

**– Лукашэнка заўважна акрыяў пасля нядаўняй сустрэчы з Пуціным у Сочы. Як вы лічыце, чаму Расія працягвае падтрымліваць нелегітымнага кіраўніка Беларусі?**

– Яна не хоча згубіць апошнюю краіну-сатэліта. З краінамі Балтыі Крэмль даўно не знаходзіць агульнай мовы, з Украінай – вайна, няма вялікага сяброўства і з іншымі былымі рэспублікамі СССР. Беларусь для Расіі – апошняя надзея. Таму гэтак званая саюзная дзяржава будзе ўмацоўвацца, у тым ліку і ў ваеннай сферы. Вось і цяпер праходзяць беларуска-расійскія вайсковыя вучэнні на нашай зямлі, на Брэстчыне. Прычым абвешчана, што яны будуць праходзіць штомесяц… І гэта ўжо непрыхаванае супрацьстаянне з ЕС і ўсім Захадам. А зусім жа нядаўна, перад выбарамі, Лукашэнка наязджаў на Расію, выстаўляў сябе змагаром за незалежнасць. Сёння – усё наадварот. Ізноў яго Расія ратуе, як і ў 1996 годзе. Пуцін паўтара мільярда крэдыту паабяцаў. Але ў самой Расіі столькі ўласных праблем…

**– На агульны з Расіяй спіс неўязных спачатку спрабавалі спісаць і забарону на вяртанне ў Беларусь мітрапаліта Кандрусевіча. Цяпер нейкія іншыя прычыны нібыта знаходзяцца. Але яны настолькі няўцямныя…**

– Гэта чарговае несусветнае глупства з боку ўлады. Ах, ты ў Польшчу паехаў – ну і жыві там… Як да такога можна было дадумацца? Улада гэтым моцна пакрыўдзіла ўсіх католікаў. А перад гэтым пакрыўдзіла і праваслаўных, змусіўшы да адстаўкі мітрапаліта Паўла. Ён, дарэчы аказаўся сумленным чалавекам, наведаўшы збітых у бальніцы.

**– А як вам нядаўні жаночы форум і зацалаваны на ім напамаджанымі вуснамі Лукашэнка?**

– Мяне той форум вельмі здзівіў. Канешне, жанчын звезлі з усёй Беларусі. Але яны так шчыра сустракалі яго, так радаваліся... Паглядзеўшы трошкі той з’езд, я дрэнна спаў. Безумоўна, Лукашэнка – неблагі акцёр і непераўзыдзены дэмагог, ведае, пра што з кім гаварыць.

**– Перад жанчынамі ён яшчэ раз пахваліўся сваёй перамогай на выбарах, маўляў, 80 працэнтаў не сфальсіфікуеш.**

– Ярмошына магла і 90 працэнтаў налічыць! Пакуль яна кіруе Цэнтрвыбаркамам, яму можна не хвалявацца. Я даўно ўжо не хадзіў на выбары, а сёлета мы з жонкай пайшлі, прагаласавалі. Людзі сапраўды валам ішлі, шмат у каго была надзея на праўдзівы падлік галасоў. А што атрымалася? Колькі было фальсіфікацый! Шмат сумленных людзей, што працавалі ў камісіях, апрылюднілі сапраўдныя пратаколы. Некаторыя з іх апублікаваны, у тым ліку ў “Народнай Волі”. І што? З боку праваахоўнікаў – нулявая рэакцыя. Ці ж так можна? Па́ра Лукашэнка – Ярмошына заўсёды будзе перамагаць. Я з асцярогаю назіраю, як ён спяшаецца зрабіць новую Канстытуцыю. Зробіць яе пад сябе, вынесе на рэферэндум, і зноў усё палічаць як трэба.

**– Але паглядзіце, якой папулярнай стала нацыянальная сімволіка, як загучаў лозунг “Жыве Беларусь!”, актуалізавалася тэма незалежнасці...**

– Гэта мяне моцна цешыць. Значыць, мы і нашы папярэднікі змагаліся нездарма. Я быў сустаршынёй Кангрэсу за незалежнасць. Неяк увечары мяне моцна пабілі невядомыя, выглядаў проста жахліва. Помню свой здымак у нейкай газеце, ён быў падпісаны: твар беларускай інтэлігенцыі. А перада мною збілі Адама Мальдзіса. Адам Восіпавіч іранізаваў тады: мы цяпер недабіткі... Асабліва мяне цешыць, што наша моладзь стала пад бел-чырвона-белы сцяг. Яна бачыць, што ў нас сапраўдная дыктатура, якая прыкрываецца дэмагогіяй і хлуснёй. БТ салаўём заліваецца: у нас тое самае лепшае ў свеце, у нас гэта... А на самай справе у нас прамысловасць рухнула...

**– Пачалі ўжо разбягацца замежныя IT-кампаніі з Парка высокіх тэхналогій, які даваў у бюджэт падаткаў прыкладна столькі, як і “Беларуськалій”.**

– Не, “Беларуськалій” больш за ўсіх даваў. ПВТ узнік адносна нядаўна, а калійшчыкі ўжо амаль паўстагоддзя працуюць. Мы ўвесь час хваліліся МАЗамі, трактарамі, яшчэ нечым. Але ўсё наша машынабудаванне давала краіне менш валюты, чым адзін “Беларуськалій”. Мы ўвесь час на другім-трэцім месцы ў свеце былі. Беларускія калійныя солі куплялі каля 60 краін.

**– Мяне ўразіў учынак салігорскага шахцёра Юрыя Корзуна, які на знак пратэсту прыкаваў сябе ў шахце. Пытанне вам як геолагу: ці праўда, што калійныя солі залягаюць на глыбіні слаямі – слой белы, слой чырвоны?**

– Ёсць такое, я на ўласныя вочы бачыў. Белы слой і не зусім яркі чырвоны, больш такі буры. Але ў цэлым успрымаецца адназначна. Мільёны гадоў пад зямлёй фарміравалася тая колеравая гама. Бачыце, сам Бог паслаў нам гэты сцяг. І таму цяпер яго так шыбка падхапіў увесь наш народ. Вунь і ў нашым доме з вокнаў бел-чырвона-белыя палотнішчы вісяць. Уздым нацыянальнай свядомасці велізарны. Што ж, дай Божа!

**– Якімі недарэчнымі ні выглядаюць дзеянні ўлады, яны выразна скіраваны на тое, каб запалохаць людзей. Якой, на вашу думку, павінна быць усенародная прышчэпка ад страху?**

– Прышчэпкай павінна быць наша здольнасць думаць і аналізаваць. Тады мы зразумеем сітуацыю, у якой апынулася краіна. Не трэба быць баязлі́ўцамі! Я ж памятаю яшчэ сталінскія часы, калі ноччу маглі прыйсці і забраць любога. І забіралі, у тым ліку майго бацьку, яго сяброў і паплечнікаў. Але яны, нягледзячы ні на што, працавалі дзеля Беларусі, яны былі поўнасцю адданыя Бацькаўшчыне! Бацькаў сябра гісторык Мікалай Улашчык амаль дваццаць гадоў у лагеры адбыў (разам з педагогам Яўхімам Кіпелем), а выйшаў на волю і засеў за даследаванне беларускіх летапісаў. Помню, мы з Вітаўтам Кіпелем апынуліся поруч на нейкай міжнароднай канферэнцыі. І Кіпель кажа: “Мы тут з табой сядзім у прэзідыуме, а нашы бацькі сядзелі ў ГУЛАГу…”

**– Днямі выйшаў у свет ваш двухтомнік пад назвай “Пра сябе, пра жыццё, пра гісторыю”. Агулам 1200 старонак! Гэта ўспаміны?**

– Пераважна гэта аўтабіяграфічныя нататкі. Мой жыццяпіс, кругабе́гі, як тата называў перыяды жыцця. Я апісаў чатыры кругабегі – “Сын “ворага народа”, “У Акадэміі навук СССР (Масква)”, “У Акадэміі навук БССР (Менск)” і падзеі часоў незалежнасці, у якіх браў удзел. Двухтомнік выйшаў дзякуючы Згуртаванню беларусаў свету “Бацькаўшчына”, Глебу Лабадзенку і выдавецтву “Медыял”. Выдавецтва паведаміла, што два камплекты адпраўлены ў Адміністрацыю прэзідэнта.

**– Каб жа іх там прачыталі! Можа, яны камусьці мазгі ўправяць?**

– Наўрад ці. Хутчэй мазгі будуць упраўляць мне. Паколькі ва ўспамінах я многія рэчы называю сваімі імёнамі. Але мне ўжо нічога не страшна, я пражыў амаль 92 гады. Я дзякую Богу, што ён даў мне доўгае жыццё і магчымасць убачыць, як абудзіўся мой народ. Паўтаруся, для мяне гэта вялікае шчасце!

Паводле Міхася Скоблы, “Народная Воля”

**навіны**

# Дзеці-беларусы ў Кіеве: "Дзядзька Саша, сыходзь, мы хочам дадому да марскіх свінак!"

Акторка Наста Шпакоўская і іншыя беларускія сем'і пікетавалі пасольства Беларусі ва Украіне. З нагоды Дня беларускай вайсковай славы, які адзначаецца 8 верасня ў гонар перамогі ў бітве пад Воршай.

5 верасня ўвечары ў цэнтры Кіева каля паўсотні прадстаўнікоў беларускай дыяспары, а таксама беларусы, якія нядаўна пераехалі ў мэтах бяспекі ў сувязі з апошнімі падзеямі на радзіме, зладзілі пікет каля амбасады Беларусі ва Украіне. Акцыя была прымеркаваная да 506-й гадавіны легендарнай бітвы – 8 верасня 1514 года 30-тысячнае войска ВКЛ разграміла ўтрая большае па колькасці войска Маскоўскага княства.

Многія неабыякавыя прыйшлі з дзецьмі, у тым ліку акторка Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага і лідарка гурта Naka Наста Шпакоўская.

Нагадаем, тыднем раней яна паведаміла, што з дзецьмі пакінула Беларусь, а за некалькі дзён да гэтага напісала заяву аб звальненні з тэатра (у ёй паказала, што просіць зволніць "па пагадненні бакоў з 21 жніўня 2020 года ў сувязі з немагчымасцю працаваць у дзяржструктуры ў сітуацыі, калі дзяржава выдае злачынныя загады супраць свайго народа").

Дзеці прынеслі плакаты "Коля! Скажи своему папе, чтобы он ушел и не пугал детей", "Как прекрасен этот мир, взрослые – не сдавайтесь!", "Моих ровесников бьет ОМОН", "Дядя Саша, уходи, мы хотим домой к морским свинкам!". Дарослыя трымалі: "Свабоду Севярынцу", "Нельзя простить, нельзя забыть".




Калі трохі сцямнела, былі запаленыя фаеры ў памяць аб загінулых падчас мірных акцый пратэстаў беларусаў. За ўсім у баку спакойна назіраў дзясятак паліцэйскіх.

novychas.by

# 20 верасня БАЗА і беларусы Нью-Ёрка правялі мітынг перад будынкам ААН

20 верасня 2020 года Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне і беларусы Нью-Ёрка правялі мітынг перад будынкам Арганізацыі Аб'яднаных нацый у сувязі з пачаткам 75 Генеральнай асамблеі ААН.

Беларусь з'яўляецца адной з краін-заснавальніц ААН, і сёньня ёй патрэбна дапамога міжнароднай супольнасьці, і ААН у тым ліку, у барацьбе супраць дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі.

На мітынгу прамаўлялі Зянон Пазняк, Наталля Федарэнка, Сяргей Сарагавец, Уладзімір Цяліца і іншыя. Ад імя ўкраінскай дыяспары выступілі Людміла Хомчанка і Стэфанія Гнатэнка, ад імя расійскай апазіцыйнай арганізацыі "Freedom in Russia" – Юлія Запарожцава.

Асноўнымі тэзісамі выступаў былі: падтрымка беларускага народа ў барацьбе супраць дыктатарскага рэжыму; прыцягненне ўвагі міжнароднай супольнасьці; неабходнасьць пашырэньня выкарыстаньня беларускай мовы; патрабаванне спыніць гвалт у дачыненні да народа. Падчас мітынгу быў прыняты зварот ад амерыканскіх беларусаў, які быў дасланы да Арганізацыі Аб'яднаных нацый.

**Паводле Наталлі Федарэнка, старшыні Галоўнай управы БАЗА**





# У Баварскіх Альпах ушанавалі памяць слуцкіх паўстанцаў

5 верасня баварскія беларусы прыехалі ў мястэчка Мітэнвальд, размешчанае ў Альпах, каб аддаць даніну памяці продкам.

Помнік слуцкім паўстанцам тут праз 28 гадоў пасля Слуцкага паўстання ўсталявалі беларускія іміграpнты, адразу пасля Другой сусветнай, у памяць аб загінуўшых за незалежнасць Беларусі.

"Салідарнасць"




Джорджыя, ЗША. 27.09.

Варшава. 23.09.




Парыж. 24.09.

Беласток. 24.09.




Ліён. 20.09.




Санкт-Пецярбург. 09.09.



Прага. 05.09.




Гара Мітчэл, Апалачы, ЗША.
09.09.




навіны

# БЕЛАРУСЫ ШВЕЦЫІ ДАМАГЛІСЯ ДЫЯЛОГУ З МІНІСТРАМ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ ШВЕЦЫІ АН ЛІНДЭ

У Стакгольме 30 дзён запар неабыякавыя людзі, якія салідарныя з народам Беларусі, выходзяць на акцыі падтрымкі.

"Яны дамагліся дыялогу з міністрам замежных спраў Швецыі Ан Ліндэ, пасля якога Швецыя высунула сваю цвёрдую пазіцыю з нагоды новых санкцый у адносінах да беларускага рэжыму", - піша нам чытач. У складзе ўдзельнікаў не толькі беларусы, але і шведы, украінцы, рускія і палякі, дадае ён.

Паводле kyky.org

# БОЛЬШ ЗА ТРЫ МЕСЯЦЫ ПРАЦЯГВАЮЦЦА ІТАЛЬЯНСКІЯ АКЦЫІ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУССЮ

Так беларуская дыяспара спрабуе падтрымаць тых, хто ў Беларусі выходзіць на мірныя акцыі і пратэсты і сядзіць за кратамі па палітычным матывам.




– Мы праводзілі акцыі ў ліпені і ў жніўні. У ліпені – штовыходныя. Акцыі праходзілі таксама і ў іншых гарадах. Напрыклад, на Сардыніі, на Сіцыліі. У жніўні мы правілі таксама недзе каля 10 акцый, – распавяла беларуска Кацярына Зюзюк.

Як адзначыла Кацярына Зюзюк, калі на пачатку ўдзел у акцыях бралі некалькі чалавек, то цяпер удзельнічаюць дзясяткі. Таксама створаны адмысловыя суполкі ў месенджарах і сацыяльных сетках, дзе прадстаўнікі дыяспары маюць магчымасць камунікаваць на палітычныя тэмы.

"Беларускае Радыё Рацыя"

# БЕЛАРУСЫ-ЭМІГРАНТЫ ЗАКЛІКАЛІ ЛОНДАНСКУЮ ФОНДАВУЮ БІРЖУ ВЫКЛЮЧЫЦЬ З АБАРАЧЭННЯ БЕЛАРУСКІЯ АБЛІГАЦЫІ НА 1 МЛРД ФУНТАЎ СТЭРЛІНГАЎ

Ініцыятары заклiку да Лонданскай фондавай біржы адмовіцца ад абарачэння беларускіх аблігацый на 1 млрд фунтаў стэрлінгаў спасылаюцца на меркаваную фальсіфікацыю вынікаў галасавання на прэзідэнцкіх выбарах на карысць дзейнага кіраўніка Аляксандра Лукашэнкі, піша брытанскі партал CITYA.M.

У чэрвені сёлета ўрад Беларусі ўпершыню размясціў аблігацыі на суму 1,25 млрд даляраў (930 млрд фунтаў) на Лонданскай фондавай біржы.

Беларускія эмігранты, аб'яднаныя ў групу "Надзея", правялі акцыю пратэсту каля фондавай біржы ў лонданскім Сіці, патрабуючы выключэння аблігацый.

Група сцвярджае, што аблігацыі "ў канчатковым выніку фінансуюць тэрарыстычны рэжым Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі".



Лонданская фондавая біржа адмовілася каментаваць пратэст.

Людміла д'Круз, адна з арганізатараў "Надзеі", сказала, што ў лонданскага Сіці ёсць маральная адказнасць не дапамагаць фінансаваць рэжым Лукашэнкі.

"Адбываецца тое, што беларускі ўрад выкарыстоўвае фінансавыя інструменты, створаныя ў дэмакратычным грамадстве – Злучаным Каралеўстве – для збору сродкаў на жорсткі, неліберальны і амаральны рэжым. Я абсалютна ўпэўненая, што Сіці абавязаны супрацьстаяць гэтаму.

[Міністр замежных спраў] Дамінік Рааб выступіў з заявай, у якой гаворыцца, што Вялікабрытанія не прызнае вынікаў выбараў, і я лічу, што фінансавыя ўстановы таксама павінны адрэагаваць аналагічным чынам".

Група "Надзея" таксама заклікае ўрад Вялікабрытаніі ўвесці санкцыі супраць беларускага ўраду і кампаній, звязаных з рэжымам.

Вялікабрытанія нядаўна прыняла закон Магніцкага, які дазваляе ўраду прымяняць санкцыі да замежных грамадзян за парушэнні правоў чалавека.

На пытанне аб магчымым прымяненні гэтага закона супраць беларускіх дзеячаў Міністэрства замежных спраў і ў справах Садружнасці адмовілася ад каментарыяў.

svaboda.org

# ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР ПОЛЬШЧЫ ПЕРАДАЎ СВЯТЛАНЕ ЦІХАНОЎСКАЙ ВІЛУ ПАД БЕЛАРУСКІ ДОМ

Ідэя "стварыць зародкі альтэрнатыўнай структуры ўрада Беларусі ў Польшчы" праўдападобна належыць прэм'ер-міністру.

Віла па адрасе вул. Крынічная, 6, у варшаўскай Саскай Кемпе – гэта былая амбасада Туніса.

Яе дызайнерам быў знакаміты даваенны архітэктар Люцыян Корнгольд, а дом быў пабудаваны для сям'і Ротштэйнаў. Віла лічыцца пярлінай мадэрнісцкай архітэктуры.

Хоць яе будаўніцтва пачалося яшчэ да вайны, будынак быў завершаны ў пасляваенны час. Пасля завяршэння будаўніцтва яна была рэзідэнцыяй амбасадара Францыі, а з 1960-х па 2015 год там жыў амбасадар Туніса.

"Беларускае Радыё Рацыя"
паводле rp.pl

памяць

# ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ 2020. МЫ — СВЕДКІ

### “Яны хочуць дэгуманізаваць нас”

Арцём Пронін, мастак, 39 гадоў, мае грамадзянства Беларусі і Ізраіля:

“11 жніўня я ехаў на ровары па Мінску, каб сустрэцца з сябрамі і, магчыма, папрысутнічаць на мітынгу. Раптам да мяне падышлі супрацоўнікі міліцыі ў масках і без апазнавальных знакаў. Яны сцягнулі мяне з ровара, крычалі нешта, быццам я з’яўляюся небяспечным для дзяржавы, завялі ў міліцэйскі мікрааўтобус, дзе былі ўжо некалькі затрыманых, і павезлі.

Паколькі пасля выбараў арыштавалі столькі тысяч людзей і дзяржаўныя турмы перапоўніліся зняволенымі, мяне і іншых даставілі ў міліцэйскі пастарунак, дзе мы начавалі. Мяне і яшчэ каля 30 чалавек міліцыя біла дубінкамі. Нас прымусілі некалькі гадзін стаяць каля сцяны, перш чым урэшце дазволілі легчы на бетон.

Адзін вязень, які паведаміў міліцыі, што прыехаў у Мінск, каб змагацца з рэжымам, быў настолькі жорстка пабіты, што я лічу, мабыць, ён памёр.

Пасля мяне даставілі ў сумнавядомую турму на Акрэсціна ў Мінску, дзе змясцілі ў камеру памерам пяць на пяць метраў разам з яшчэ 120 зняволенымі. Нас пратрымалі 12 гадзін без вады. За 48 гадзін, праведзеных у камеры, зняволеныя атрымалі ежу толькі за дзве гадзіны да вызвалення. Нам не далі магчымасці схадзіць у прыбіральню на працягу першых 12 гадзін, і адзіным спосабам было памачыцца ў некалькі пустых бутэлек.

Ніякага суду не было. Але перад вызваленнем мяне і некалькіх іншых зняволеных вывелі на двор турмы і прымусілі падпісаць дэкларацыі аб удзеле ў незаконных дэманстрацыях. Нас прымушалі да ілжывых прызнанняў, а потым супрацоўнікі турмы жорстка білі дубінкамі па спіне і нагах.




Мая група ўваходзіла ў “канвеер” з такіх самых груп, што адна за адной выводзілі на двор для падпісання прызнанняў, а потым білі, каб тыя, хто знаходзіўся на стадыі падпісання, маглі чуць і бачыць тых, каго збівалі.

Пры арышце ў мяне былі і беларускі, і ізраільскі пашпарты, і я паведаміў сваім выкрадальнікам, што маю грамадзянства Ізраіля, у надзеі, што гэта дапаможа. Але па выніку гэта не зрабіла ніякай розніцы з іншымі.

Найгоршае катаванне было ў тым, што яны абыходзіліся з намі горш, чым з жывёламі. Яны нас прынізілі. Калі мы папрасілі вады, яны адмовілі, сказаўшы, што мы будзем тады мачыцца па ўсёй камеры. Яны хацелі дэгуманізаваць нас. Вось так яны паводзілі сябе ў адносінах да нас увесь час, калі мы знаходзіліся ў турме.

Горш было, што мы не ведалі, чым гэта скончыцца. Ці проста забілі б нас? Трымалі б у голадзе ці не давалі вады, пакуль мы не памром? Ім прамылі мазгі, думаюць, што мы самы вялікі вораг рэжыму. У іх велізарная нянавісць да людзей.

Я быў праціўнікам улады Лукашэнкі яшчэ да выбараў і падчас нядаўняга галасавання прагаласаваў супраць яго, але я ніколі не думаў, што рэжым будзе так жорстка абыходзіцца са сваім народам, як гэта было ў апошнія дні. Не думаў, што ён сапраўды фашысцкі. Людзі не будуць жыць пры гэтым рэжыме. Я думаю, што ў яго ёсць месяц, магчыма, менш. Беларускі народ можа прызвычаіцца да многіх рэчаў, але гэта ўжо перабор”.




Катаванні на Акрэсціна. Здымка belsat.eu

### “Ты разумееш, што ты ў поўнай уладзе азвярэлага садыста”

Вольга Карач, дырэктарка міжнароднага цэнтру грамадзянскіх ініцыятыў “Наш дом”:

“Мы складаем спіс ахвяр рэпрэсій. У нас створаная следчая група, якую ўзначальвае палкоўнік Алег Алкаеў. Ён быў начальнікам турмы ў Жодзіне, быў начальнікам расстрэльнай каманды. Цяпер ён займаецца зборам усіх злачынстваў рэжыму Лукашэнкі – асабліва з 9 жніўня. Гэта тычыцца катаванняў, згвалтаванняў, выкраданняў людзей, забойстваў. Цяпер усе гэтыя звесткі пойдуць у парламенцкую асамблею Савета Еўропы, у структуры ААН – офіс вярхоўнага камісара ў правах чалавека.

Гэта ўсё было: згвалтаванні, забойствы, катаванні, давядзенне да суіцыду. Гэта ўсё было ў беларускіх турмах ужо не першы год. Цяпер беларускае грамадства звярнула на гэта ўвагу. Ёсць сэнс даціскаць, каб гэта хаця б спыніць. І шанцы, я лічу, вельмі вялікія.

Гэтая тэма ў Беларусі даволі табуяваная. Асабліва гэта датычыць мужчын. Мы дакладна ведаем, што пасля затрыманняў у турмах гвалтавалі не толькі мужчын і жанчын, але і іхных дзяцей. Іх адлоўлівалі на вуліцах. Гаворка ідзе ў тым ліку і пра падлеткаў – хлопчыкаў, дзяўчатак. Хачу падкрэсліць, што іх гвалцілі не звычайным чынам, а дубінкамі міліцэйскімі альбо бутэлькамі ці палкамі.

Ёсць разрывы шыйкі маткі, ёсць разрывы прамой кішкі, шэраг падлеткаў нават сталі інвалідамі.

Іншае пытанне, што яны знаходзяцца ў даволі складаным псіхалагічным стане, вельмі складана ў гэтых справах працаваць. Ёсць вялікая рызыка, што любы неасцярожны рух – і ахвяра гвалту ўчыніць суіцыд.

Я хачу падкрэсліць, што тыя банды сілавікоў, якія арудуюць на вуліцах – гэта людзі не выпадковыя. Гэта не проста нейкі супрацоўнік міліцыі, якому аддалі загад. Напрыклад, калі вам даць у рукі дубінку і даць загад гвалтаваць дзіця, вы нічога не зробіце. Вы проста не ведаеце, як гэтыя прафесійныя катаванні арганізаваць. А сілавікі шмат гадоў практыкаваліся на беларускіх грамадзянах у турмах. У беларускіх турмах сітуацыя з катаваннямі нашмат горшая, чым нават у Расіі. Усе гэтыя людзі – псіхапаты. Яны псіхічна нездаровыя. Яны атрымліваюць задавальненне ад гэтых катаванняў.

Цяпер ахвяры гвалту ў вельмі дрэнным стане. Аж да таго, што не пазнаюць сваіх родных. Баяцца кожнага чалавека побач. Ёсць яшчэ сем’і, якія не ідуць на кантакт. Каля 10 тысяч грамадзян зазналі катаванні. Збор інфармацыі пра гэта пакуль толькі ідзе. Гэта цяжка, бо ўлада пачала замятаць сляды. Людзям, якія сядзелі на Акрэсціна, не аддаюць пашпарты і дакументы пра тое, што яны там сядзелі. Пры спробе атрымаць гэтыя дакументы ім зноў пачынаюць пагражаць згвалтаваннем і крымінальнымі справамі. Сілавікі пачынаюць прыходзіць да іх дадому, тэлефанаваць іхным сваякам.

Лекары таксама баяцца. Яны пішуць у сваіх заключэннях, што чалавек упаў з крэсла ці яшчэ нешта.

Міліцыянт, які біў мяне і пагражаў згвалтаваннем, рабіў гэта на загад Алега Гайдукевіча, старшыні партыі Жырыноўскага ў Беларусі. Гэта адбывалася ў 2011 годзе. Мяне затрымалі як падазраваную ў тэракце. У Беларусі за гэта можа быць смяротная кара. Тады я адчула, што такое быць у руках псіхапата. Дзякуючы міжнароднаму рэзанансу ўсё прайшло не так жорстка.

Калі ты бачыш шалёныя вочы чалавека, які бачыць твой боль і страх і яшчэ больш узбуджаецца, гэта вельмі страшна. Ты разумееш, што ты ў поўнай уладзе азвярэлага садыста”.

Паводле svaboda.org

гутарка

# “У «КАРНІКАЎ» ЁСЦЬ ТАКАЯ ШТУКА ЯК РАСЧАЛАВЕЧВАННЕ”

Беларус з Санкт-Пецярбурга Аляксей Залатарскі правёў свой 26-ы дзень нараджэння ў ізалятары на Акрэсціна.



У Мінск Аляксей прыехаў, каб убачыць сваякоў. Таксама ён хацеў паглядзець на акцыі пратэсту, але не паспеў. У ізалятар яго забралі з аўтобуснага прыпынку. Пра тое, як цяпер сілавікі ставяцца да затрыманых і як людзі спраўляюцца з ціскам, Аляксей распавёў “Настоящему времени”.

– Я вельмі моцна перажываў. Здавалася б, што такога – двое сутак дзесьці пасядзець. Галоўнае, што было незразумела, што адбудзецца са мной далей. У нас проста за дзвярыма знаходзіўся стол, дзе судзілі дзяўчат. Там налева і направа раздавалі суткі: каму 10, каму 15. Не дапамагаў ні адвакат, нішто. І гэта стварыла б мне шмат праблем.

Але нават не гэта самае галоўнае. Самае галоўнае– гэта родныя. Я разумеў, што могуць патэлефанаваць бабулі. Яна моцна перажывала, моцна знервавалася, ёй 85 гадоў. Я, адпаведна, разумеў, што родныя стаяць пад гэтым траклятым Акрэсціна, чакаюць. Хутчэй за ўсё, нічога не ведаюць: жывы, не жывы, здаровы, білі, не білі.

**– Усе мяркуюць, што асноўная хваля гвалту была ў першы дзень пасля выбараў і 10-11 жніўня. Праз месяц гвалт працягваецца або няма?**

– Гвалт адбываецца па шляху ў Акрэсціна. У самім Акрэсціна ўжо ніхто не б'е. Прынамсі, на маіх вачах нікога не ўдарылі, не штурхнулі, – толькі шмат пагражалі. Але па шляху больш за ўсё б'е АМАП пры затрыманні. Чалавека, які на вуліцы неяк няправільна сябе паводзіў, на іх думку, напрыклад, не хацеў ісці, нешта крычаў, – яго ў аўтазаку чакаюць ужо трое супрацоўнікаў з дубінкамі, якія, як яны гэта называлі, праводзяць прафілактыку.

**– Вам праводзілі?**

– Я быў затрыманы на аўтобусным прыпынку. Я зусім не збіраўся супраціўляцца, таму што нічога не парушаў. Калі мяне папрасілі прайсці – я прайшоў. Мяне не білі ў гэты момант, толькі быў адзін інцыдэнт, калі маладога чалавека паспрабавалі прымусіць з'есці сцяг, я выгукнуў: “што вы робіце?” І атрымаў нямоцны ўдар дубінкай па патыліцы – засталася шышка. І кароткім ударам разбілі губу, што таксама некрытычна.

**– Вы стварылі сваю ўласную класіфікацыю супрацоўнікаў міліцыі, раскажыце пра яе.**

– Я вылучыў першую катэгорыю самых жудасных страшных людзей, у сваёй класіфікацыі я яе назваў “карнікі”. У іх ёсць такая штука як расчалавечванне. Яны ніколі не называюць людзей людзьмі. Не “чалавек”, не “людзі”, а “алоўкі”, “матэрыял”, “маса”, “бараны”, – як заўгодна. Нічога, звязанага са словам "чалавек", там не будзе. Гэта людзі з вар'яцкім позіркам, бясконцая нейкая актыўнасць, міміка, і яны будуць праяўляць жорсткасць, неяк паскудзіць ўсюды, дзе могуць. Ім для гэтага не патрэбны загад – яны прама накручаныя. Прычым гэта выдатна прыкметна на кантрасце, таму што побач яны могуць знаходзіцца з людзьмі другой катэгорыі.

Другая катэгорыя – гэта клеркі. Звычайныя людзі, тыповы офіс. Хтосьці адлыньвае і спрабуе хутчэй сысці дадому, хтосьці спрабуе выслужыцца, атрымаць надбаўку ці павышэнне, але, зноў жа, без фанатызму. Як толькі нешта рабіць неабавязкова – гэта не будзе зроблена. Такіх там большая частка, калі браць усіх супрацоўнікаў, але гэта ў асноўным ГУУС. ГУУС – гэта спакойныя хлопцы. Калі ў пяці метрах ад яго будуць кагосьці збіваць, ён будзе тэлефанаваць жонцы і казаць: “Слухай, сёння пазней прыйду, завал, куча народу”.

І апошняя катэгорыя – гэта катэгорыя людзей, якія сумняваюцца, вагаюцца, але па нейкіх прычынах яшчэ там працуюць.

**– Яна шматлікая?**

– Не, гэта самая малалікая катэгорыя, якую я бачыў. Іх можна неяк вылучыць па вачах, па міміцы. Яны перажываюць, яны распытваюць пра нешта, яны гатовыя мець зносіны як чалавек з чалавекам.

**novychas.by паводле currenttime.tv**




## Беларускі каляндар памятных дат на кастрычнік 2020 года

**1 кастрычніка**
- 55 гадоў таму, у 1965-м, памёр Генрык Бэта, пісьменнік.

**2 кастрычніка**
- 220 гадоў таму, у 1800-м, памёр Мацей Радзівіл, драматург, кампазітар.
- 45 гадоў таму, у 1975-м, памёр Тамаш Падзява, філосаф.

**4 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1885-м, памёр Антон Залескі, мастак.
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Язэп Гладкі, этнограф, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1972-м.

**6 кастрычніка**
- 15 гадоў таму, у 2005-м, памёр Алесь Емельянаў, паэт.

**7 кастрычніка**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, памёр Уладзіслаў Малахоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

**8 кастрычніка**
- 150 гадоў таму, у 1870-м, нарадзіўся Аляксандр Булатовіч, даследчык Усходняй Афрыкі, дыпламат. Памёр у 1919-м.

**18 кастрычніка**
- 60 гадоў таму, у 1960-м, памёр Іван Бялькевіч, мовазнавец.
- 25 гадоў таму, у 1995-м, памёр Янка Макарэвіч, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі, паэт.

**19 кастрычніка**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Сяргей Палуян, празаік, літаратуразнавец. Загінуў у 1910-м.

**20 кастрычніка**
- 135 гадоў таму, у 1885-м, нарадзіўся Алесь Бурбіс, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Памёр у 1922-м.

**21 кастрычніка**
- 120 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Фелікс Купцэвіч, пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.
- 85 гадоў таму, у 1935-м, нарадзіўся Юрка Геніюш, пісьменнік. Памёр у 1985-м.

**22 кастрычніка**
- 100 гадоў таму, у 1920-м, нарадзіўся Юрка Луцкевіч, вайсковец. Памёр у 1992-м.

**26 кастрычніка**
- 210 гадоў таму, у 1810-м, нарадзіўся Генрык Дмахоўскі, скульптар. Загінуў у 1863-м.
- 135 гадоў таму, у 1885-м, памёр Міхаіл Урончанка, географ, перакладчык.

**27 кастрычніка**
- 590 гадоў таму, у 1430-м, памёр вялікі князь Вітаўт.
- 30 гадоў таму, у 1990-м, у Гайнаўцы адкрыўся Беларускі этнаграфічны музей.

**28 кастрычніка**
- 175 гадоў таму, у 1845-м, нарадзіўся Зыгмунт Урублеўскі, навуковец-фізік. Загінуў у 1888 г.

**30 кастрычніка**
- 130 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Міхаіл Урбановіч, культурны дзеяч. Памёр у 1973-м.

**31 кастрычніка**
- 85 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Леанід Галяк, юрыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1980-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 9 (220), верасень 2020

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27